


№ 12 (173)
Сакавік 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



### На тым тыдні...

● **21 сакавіка** ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава Кястуціса Стошкуса **«Вільня. Фотаздымкі старога горада»**, арганізаваная Пасольствам Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь. Варта адзначыць, што па архітэктурных матывах старога горада Вільні шмат выдатных твораў стварылі таксама сучасныя літоўскія фатографы, але, на думку мастацкага крытыка Рамінты Юрэнайтэ, напэўна, толькі Стошкус аб'ёмам архітэктурнай дакументацыі і сістэматычнасцю набліжаецца да тых задач, якія ставілі перад сабою класікі Віленскай фатаграфіі. Аўтар здымае панарамы Вільні, дакументуе архітэктурныя ансамблі, фіксуе змены урбаністычнай тканіны горада і яго канкрэтных архітэктурных помнікаў.

Дзякуем Нацыянальнаму музею Літвы, які ласкава прадаставіў выставу, а таксама Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі за магчымасць паказаць шырокай аўдыторыі фотаздымкі Старога Горада Вільні.




# Нашаму роду няма пераводу

Этнаграфічны канцэрт «Фальклор беларускай глыбінкі», арганізаваны Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускім дзяржаўным інстытутам праблем культуры, Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў, адбыўся ўвечары 15 сакавіка ў адной з аўдыторый універсітэта. У канцэрце прынялі ўдзел народны фальклорны гурт «Міжрэчча» вёскі Пагост і этнаграфічны гурт «Лянок» вёскі Бурэзь Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці, народны фальклорны гурт «Палескія крыніцы» з вёскі Рог Салігорскага раёна Мінскай вобласці, этнаграфічны гурт вёскі Галавенчыцы Чавускага раёна Магілёўскай вобласці, а таксама цымбаліст-самавук з горада Вілейкі Мінскай вобласці Іван Віктаравіч Валынец.

Яшчэ задоўга да пачатку канцэрта на калідоры універсітэта гучалі заліхвацкія мелодыі гармоніка, бубна, народныя песні, вясёлы смех – калектывы рэпетыравалі нумары сваіх выступленняў.

Праз некаторы час, а 18 гадзіне, пачаўся канцэрт. Словы вядучай былі адрасаваны да «роду, якому няма пераводу», г.зн. не толькі да гледачоў і выступоўцаў, але і да ўсіх беларусаў. Перад выхадам на сцэну калектываў выступіла рэктар універсітэта Ядвіга Дамінікаўна Грыгаровіч. Пасля пра ідэю канцэрта расказала галоўны яго арганізатар Тамара Барысаўна Варфаламеева.

Потым пачалася 1-я частка, якая складалася з песень, што выконваліся падчас посту. Так, ад гурта «Міжрэчча» прагучалі «Ішла дзеўка лесом-бором», «Не ўнывай», «Лянок» выканаў «Варвара прэкрасна», а таксама «Прачыстая маці» (спявалі ў Піліпаўку).

Вельмі цікавай была 2-я частка канцэрта. Іван Віктаравіч Валынец выканаў на ўласных цымбалах (такіх самаробных цымбалаў на Беларусі засталося некалькі), найгрышы беларускіх народных танцаў «Полька-Янка», «Кракавяк» і інш. Арыгінанальна і незабыўна расказала казку «Сястра і дванаццаць братоў» Паўліна Навумаўна Ільюшчыц з вёскі Рог Салігорскага раёна. Гледачоў зацікавіў, мабыць, не столькі змест казкі, колькі каларытная, непаўторная і жывая мова выканаўцы. Да таго ж жанчына, якой ужо за 80 гадоў, падчас аповеду ўдала жартавала, таму і заслужыла гучныя і шчырыя апладысменты. Этнаграфічны гурт вёскі Галавенчыцы выканаў «Благаславі, Божа» (спявалі на Дабравешчанне) і вясельную песню «Сонца заходзіць», гурт «Палескія крыніцы» – «Вясна красна» (веснавая песня), «Памажы нам, Божа!» (Траецкая песня), «Ой, пайду я на талоку» (жніўная талака), а «Міжрэчча» выканаў веснавую песню «Зязюленька баравая», гурт «Лянок» праспяваў «Ужэ весна», «Ходзіць орэл», Емяльян Ціханавіч Страх і Кацярына Сцяпанаўна Блоцкая выканалі «Хадзіла-блудзіла ў вішнёвом саду».

У другой частцы канцэрта гледачы пабачылі і танцы, а таксама карагоды. У выкананні гурткоўцаў з вёскі Галавенчыцы танец «Зеркала», удзельнікі «Міжрэчча» вадзілі веснавы карагод «Бабуся», паказалі своеасаблівы танец «Тры-да-ну», які выконвалі ў пост.

Своеасаблівы настрой і атмасферу канцэрту надаваў паказ на вялікім экране фотаздымкаў з вывамі беларускіх вёсак, побыту іх жыхароў, краявідамі нашай зямлі. Канцэрт атрымаўся сапраўдным святам беларускага фальклору.

**Ігар ГРЭЧКА,**
**фота аўтара**



*На здымках: моманты канцэрта*

**Ад рэдактара.** ***Усё тое, пра што напісаў Ігар Грэчка – праўда. Але ніякімі словамі немагчыма перадаць атмасферу ўзнёсласці, захаплення, якія апанавалі слухачоў-студэнтаў, выкладчыкаў, гасцей канцэрта. Пра адно мы, прысутныя, шкадавалі: як заўсёды, там, дзе вельмі патрэбна, не было нашага беларускага тэлебачання, якое магло б данесці аўтэнтычны фальклорны цуд да больш шырокай глядацкай аўдыторыі. Таму ад «КГ» – ідэя: арганізатарам трэба запрасіць на ІІІ канцэрт «Фальклор беларускай глыбінкі» міністра культуры У. Ф. Матвейчука. Упэўнены, там адразу будзе і наша БТ, тым самым мы і дасягнем мэты – павялічым аўдыторыю на ўсю нашу краіну.***





# Краязнаўства і бібліятэка

Ушаччына – багаты, цікавы край. Некалі наш зямляк Р.І. Барадулін адзначаў: «Ушаччына. На карце абрысы баравой і азёрнай стараны нагадваюць апалены з краёў ліст пергаменту, на якім гісторыя зрабіла шмат памет. Гэтыя абрысы не выпадковыя, бо войны ішлі, як дзень за днём. І ў полымі іх згаралі паметкі гісторыі – звесткі, факты падзей, імёны аратаяў, воінаў, змагароў. І зрабілася ўшацкая зямля вогненатрывалай: не дужа шчодрай на ўраджаі, затое ўрадлівай на ратную доблесць, на таленты».

Ушаччына яшчэ напалову вывучана, напалову складзена яе гісторыя. Дзякуючы зацікаўленым у гэтым пытанні людзям, сапраўдным патрыётам Ушаччыны, многія карысныя матэрыялы з гісторыі гераічнага, баравога, азёрнага і партызанскага куточка Беларусі ўжо з'явіліся і сталі патрэбнымі і карыснымі, як для ўшачан, так і для гасцей Ушацкага раёна. Ва Ушацкай цэнтральнай раённай бібліятэцы (ЦРБ) імя Е.Я. Лось ёсць шмат матэрыялаў, якія поўнасцю прысвечаны Ушацкаму раёну – «Памяць. Ушацкі раён»; Р. Барадулін, В. Ждановіч «Вяртанне», што з'яўляюцца настольнымі кнігамі для жыхароў раёна; шэраг выданняў, у якіх гаворыцца пра Ушачы, Ушацкі раён – яго гісторыю, пэўныя перыяды; ёсць падборкі матэрыялаў з розных крыніц, выданняў; работа мясцовага гісторыка-краязнаўца І.П. Дука «З гісторыі Ушаччыны»; копіі курсавой работы былой студэнткі Полацкага дзяржаўнага універсітэта Ірыны Лашковай «Археалагічная карта Ушацкага раёна» і дыпломнай яе работы «Культура Ушаччыны XVII стагоддзя» (пры напісанні гэтых работ яна карысталася многімі матэрыяламі нашай бібліятэкі). Вялікую дапамогу карыстальнікам і наведвальнікам бібліятэкі аказваюць тэматычныя падборкі матэрыялаў з перыёдыкі: «Ушаччына: учора, сёння, заўтра», «Ушаччына: гісторыя і сучаснасць; цікавыя лёсы людскія; да родных каранёў», «Літаратурна-мастацкія таленты Ушаччыны», «Гордасць і слава Лясных азёр», «Ушацкая ЦБС у друку», «Вуліцы г.п. Ушачы» і іншыя. Усе матэрыялы пра Ушаччыну адлюстраваны ў краязнаўчай картатэцы «Ушацкі раён».

Стала традыцыяй ва Ушацкай цэнтральнай раённай бібліятэцы праводзіць для наведвальнікаў мерапрыемствы краязнаўчага характару: вечарына-сустрэча з мясцовым мастаком М.А. Казіцкім «Праз творчасць да веры», выпуск буклета «М.А. Казіцкі – мастак-іканапісец», брашуры «Свет души человеческой»; вечарына-партрэт Л.М. Карабань – самадзейнай паэтэсы «Радкі, што ідуць ад душы» і выпуск зборніка яе вершаў «Строки, идущие от души»; прэзентацыя кнігі А.У. Салтука «На вейцы веку» і выпуск буклета «А.У. Салтук» да яго 60-годдзя; выпуск зборніка «З Матырынскай фальклорнай спадчыны» і буклета «Тамара Барадзёнак» пра Тамару Дзмітрыеўну Барадзёнак – нашу мясцовую паэтэсу, краязнаўцу, фальклярыстку. У чытальнай зале Ушацкай ЦРБ арганізавана пастаянная кніжная выстава «Край наш сінявокі, жытнёва-калосны», на якой прадстаўлены матэрыялы краязнаўчага характару; заўсёды выстава дапаўняецца новымі цікавымі матэрыяламі, звесткамі, што вышукваюць супрацоўніцы бібліятэкі з розных друкаваных крыніц пра Ушаччыну; «Ушаччына аграрная: шляхі развіцця і станаўлення», на якой размешчаны матэрыялы аб сельскай гаспадарцы Ушацкага раёна.

Многія матэрыялы краязнаўчага характару выкарыстаў пісьменнік Ю. Татарынаў для напісання нарыса аб Ушачах і Ушацкім раёне, і яны адлюстраваны ў кнізе «Гарады Беларусі».

Паколькі раённая бібліятэка носіць імя знакамітай зямлячкі, выдатнай паэтэсы Еўдакіі Лось, у бібліятэцы створаны краязнаўчы куток, дзе сабраны матэрыялы аб яе жыцці і літаратурна-грамадскай дзейнасці, асабістыя рэчы; у чытальнай зале аформлена пастаянная кніжная выстава «Ад сакавіка да ліпеня», якая своечасова дапаўняецца і дзе прадстаўлена ўся творчасць Е.Я. Лось. Як адзначыла Т. Барадзёнак:

*Кожнаму на свеце чалавеку*
*Па душы прызванне Бог дае,*
*Вось таму Ушацкую*
*бібліятэку*
*Другім домам кожны з нас*
*заве.*
*Слаўным імем яе назвалі,*
*Гордым, гучным –*
*Еўдакіі Лось.*
*Той, што з фота*
*ў чытальнай зале*
*К нам, здаецца, спусціцца*
*вось-вось...*
*І хаця усмешка ўжо пагасла*
*На паэткі вуснах назаўжды,*
*Талент яркі зоркаю*
*нязгаснай*
*Людзям сэрцы грэе праз гады.*

***Ірына УРБАН,***
*дырэктар Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Е.Я. Лось, г. Ушачы*

## Міжнародная навукова-тэарэтычная канферэнцыя ў ВДУ імя П.М. Машэрава

19–20 красавіка гістарычны факультэт Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М. Машэрава праводзіць міжнародную навукова-тэарэтычную канферэнцыю «Актуальныя праблемы з гістарычнага мінулага і цяперашняга ў грамадска-гуманітарных і сацыя-рэлігіязнаўчых навуках Беларусі, бліжняга і дальняга замежжа». Да пачатку канферэнцыі плануецца выданне зборніка. Аб'ём тэзісаў 3–4 поўныя старонкі электроннага тэксту, набраныя праз 1 інтэрвал шрыфтам Times New Roman 14 пт.

Адрас аргкамітэта: 210038, г. Віцебск, Маскоўскі пр-т, 33. ВДУ імя П.М. Машэрава, кафедра ўсеагульнай гісторыі і сусветнай культуры. Тэлефон для даведак: (8-0212) 21-97-38, (8-0212) 250-44-57. E-mail: rio@vsu.by

## Наш каляндар

135 год таму, 7 сакавіка 1872 года, у Таганрогу (Расія) нарадзіўся **Васіль Андрэевіч ЗАЛАТАРОЎ**. Будучы кампазітар і педагог, прафесар (1918), заслужаны артыст РСФСР (1932), народны артыст Беларусі (1949) скончыў у 1900 годзе (клас М. Рымскага-Корсакава) Пецярбургскую кансерваторыю. Вёў клас кампазіцыі ў Беларускай кансерваторыі (1933–1941). Дзякуючы яму адбываўся рост нацыянальных кампазітарскіх кадраў (У. Алоўнікаў, А. Багатыроў, Л. Абеліёвіч і інш.). На музыку ягонага вядомага балета «Князь-возера» (1949, Дзярж. прэмія СССР 1950) пастаўлены балеты «Аповесць пра каханне» (1953) і «Палымяныя сэрцы» (1955), сімфонія «Беларусь» (1934), танцавальная сюіта і уверцюра-фантазія на беларускія тэмы для сімфанічнага аркестра (1937) і інш.

**Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага** была створана 100 гадоў таму ў фальварку Палевачы (Глыбоцкі раён). Узнікла на аснове традыцый беларускіх вечарынак і аматарскіх «сямейных» спектакляў. Паказы складаліся з 1–2 п'ес, дэкламацый (вершы Я. Купалы, Я. Коласа, А. Паўловіча, Я. Лучыны і інш.), выконваліся народныя песні і танцы. У рэпертуары – «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Сватанне» і «Мядзведзь» А. Чэхава, «У зімовы вечар» і «Хам» паводле Э. Ажэшкі і інш. Сярод акцёраў, напрыклад, вылучаліся Буйніцкі, Крапівіха (Цётка), Бурбіс, сярод спевакоў Я. Феакцістаў, танцораў – Буйніцкі з дочкамі Аленай і Вандай, сярод музыкантаў — І. Голер і Дз. Крывадубаў (Няленка).

Акцёры выступалі ў беларускіх нацыянальных касцюмах. У дэкарацыйным афармленні выкарыстоўваліся элементы беларускага народнага выяўленчага мастацтва.

Трупа Ігната Буйніцкага садзейнічала беларускаму нацыянальна-культурнаму адраджэнню, узнікненню новых аматарскіх тэатральных калектываў.

Вядомы гісторык і паэт **Мацей СТРЫЙКОЎСКІ** нарадзіўся 21 сакавіка 1547 года ў маёнтку Стрыкаў (Польшча). У 1561 годзе скончыў парафіяльную школу ў Бжэзінах. У ВКЛ з 1563 года. Удзельнічаў у Лівонскай вайне 1558–1583 гг. як разведчык. Падчас службы ў віцебскім гарнізоне (1570–1573) працаваў над гісторыяй ВКЛ і суседніх дзяржаў. Працаваў пры двары князёў Алелькавічаў у Капылі і Слуцку. З 1579 года канонік жмудскі. Аўтар гістарычнага твора «Аб пачатках, вывадах, доблесцях, справах рыцарскіх і дамовых слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага», паэм. Галоўная ягоная праца «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (Каралевец, 1582) з'яўляецца першай друкаванай гісторыяй беларуска-літоўскай дзяржавы ад легендарных часоў да 1580 года. У ёй выкарыстаны звесткі з беларускіх летапісаў.

# «Куфэрак» са скарбамі,
## або Захаванне спадчыны – справа асабістая і дзяржаўная

***Увосень 2006 года на базе Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры адбыліся курсы павышэння кваліфікацыі спецыялістаў раённых, гарадскіх аддзелаў культуры па пытаннях аховы гісторыка-культурнай спадчыны. Шчыра кажучы, едучы ў камандзіроўку на курсы, нават і не магла падумаць, колькі цікавых адкрыццяў мяне чакае наперадзе.***

У першы дзень заняткаў мы сустрэліся са спецыялістамі Упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Наша ўвага была сканцэнтравана на ўвод у дзеянне новага Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь», які ўступіў у сілу летась. Намеснік начальніка ўпраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Ігар Чарняўскі спыніўся на асноўных артыкулах Закона, якія цалкам змяніліся ці дапоўнены. Так, напрыклад, у арт. 20 «Крытэрыі адбору матэрыяльных аб'ектаў і нематэрыяльных праяўленняў творчасці чалавека для надання ім статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці» ўнесены змяненні ў п. 2 – вызначаны дакладныя межы датавання помнікаў, якія могуць быць унесены ў спіс – «з часу першапачатковага стварэння нерухомага матэрыяльнага аб'екта павінна прайсці не менш, чым 40 гадоў і ён павінен быць поўнасцю або не менш чым на 90 працэнтаў адноўлены ў адпаведнасці з гістарычнымі данымі на ранейшым месцы».

Асаблівая ўвага была звернута на прынцыпы аховы помнікаў археалогіі. Першапачатковымі задачамі, якія акрэсліла ў сваім дакладзе загадчык аддзела археалогіі Інстытута гісторыі НАН Беларусі доктар гістарычных навук Вольга Ляўко і якія патрабуюць абавязковага вырашэння, з'яўляюцца вызначэнне іх дакладнага месцазнаходжання, прывязка да сістэмы каардынат і нанясенне на карты землекарыстання, бо ў краіне пры правядзенні гаспадарчых работ існуе пагроза знішчэння найбольш значнага і каштоўнага пласта гісторыка-культурнай спадчыны.

Наталля Хвір, загадчык сектара аховы спадчыны Упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, занепакоена аб'ектамі духоўнай спадчыны – нематэрыяльнымі каштоўнасцямі Беларусі. Гэта сакрэты ткацтва, ганчарнай справы, казкі, мова, яе дыялекты, вельмі багаты традыцыйны фальклор. На жаль, толькі 52 аб'екты нематэрыяльнай спадчыны Беларусі ўключаны ў Дзяржаўны спіс. Сярод іх абрад «Юраў» («Юраўскі карагод»; вёска Пагост Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці), якому нададзены статус духоўнай гісторыка-культурнай каштоўнасці другой катэгорыі. І гэта пры тым, што краіна далучылася да Міжнароднай канвенцыі аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Кожнаму ўдзельніку сустрэчы была выдадзена дыскета з прававой базай па пытаннях аховы культурнай спадчыны.



*Кніга – скарбніца*

Нечаканым для «курсантаў» быў удзел у рабоце Рэспубліканскага навукова-метадычнага Савета па праблеме аховы гарадоў і гістарычных цэнтраў, культурнага ландшафту, архітэктурных аб'ектаў на чале з намеснікам Міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Грыдзюшкам. На пасяджэнні разглядалася навукова-праектная дакументацыя на выкананне рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ у Нясвіжскім замку, забудова гістарычнага цэнтра Гомеля, выдача заключэнняў аб адпаведнасці кваліфікацыйным патрабаванням кандыдатаў на атрыманне пасведчанняў на права выканання навукова-даследчых работ на гісторыка-культурных каштоўнасцях, разгляд прапаноў аб наданні матэрыяльным аб'ектам статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Другі сюрпрыз нас чакаў таксама пад час размовы з намеснікам Міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Грыдзюшкам. Справа ў тым, што ўсе калегі хацелі паглядзець Нацыянальную бібліятэку Беларусі, але экскурсіі там былі распісаны далёка наперад. Уладзімір Пятровіч уважліва выслухаў наша жаданне, і праз гадзіну мы ўжо былі на экскурсіі ў Нацыянальнай бібліятэцы, наведвалі яе залы і галерэі. Пікам праграмы ў літаральным сэнсе стаў пад'ём на аглядную пляцоўку васьміграннага гмаху, адкуль мы, якія ўсе трапілі сюды ўпершыню, удосталь налюбаваліся панарамай Мінска і яго ваколіц пад вэлюмам кастрычніцкіх хмар.

**(Заканчэнне на стар. 3)**

# Сімвалы гераізму, адвагі і мужнасці

*Вы перамогу здабывалі*
*Зусім нялёгкаю цаной,*
*Не за медалі ваявалі –*
*Народ Вы ратавалі свой!*

*Мікалай Даргель*

***Іх не сотні, не тысячы, іх – больш! Яны – па ўсёй Беларусі! Артыкул Дзмітрыя Дуброўскага «Памерлыя сораму не маюць» («КГ» № 8 за люты г.г.) вельмі ўсхваляваў, бо зусім нядаўна і сам займаўся разблытваннем гэтага сакрэтнага факта гісторыі.***

Мой артыкул «Сімвал на скрыжаванні» быў надрукаваны ў «Маладзечанскай газеце». І толькі краязнаўца ведае: колькіх паездак, сустрэч і ўражанняў гэта каштавала. Вось што расказалі мне ў Радашкавіцкай школе-інтэрнаце, дзе знаходзіцца музей «Вогненных таранаў»: «Скульптар А. Анікейчык не мог нават і прадбачыць у той час, што яго велічны помнік гастэлаўцам каля Радашкавіч стане сімвалам гераізму, мужнасці і самаахвярнасці і многіх іншых пілотаў. На сёння ўжо дакладна стала вядома, што ў той дзень, 26 чэрвеня 1941 года, у небе каля Радашкавіч адбывалася нейкая недарэчнасць. Самалётаў нашых і варожых было... процьма! Паветраныя баі ішлі вельмі жорсткія. У навакольных вёсках яшчэ і сёння можна знайсці страху ці плот з абломкаў тых ахвяр, а трактарысты штогод адкопваюць на палях то пагнуты прапелер, то кола самалёта... У той дзень на гэтым напрамку выконвалі баявыя заданні экіпажы з многіх авіяпалкоў. Адным з падбітых аказаўся і самалёт камандзіра эскадрыллі 207-га бамбардзіровачнага палка капітана Мікалая Гастэлы. Яго вядомыя лётчыкі Враб'ёў і Рыбас заўважылі, як загарэлася машына іх камэскі, але потым, у час бою, яны згубілі яго. Пасля ж убачылі, як ахоплены полымем самалёт урэзаўся ў варожую тэхніку і жывую сілу на шашы Маладзечна–Радашкавічы. Яны і далажылі камандаванню, як загінуў іх камандзір. М.Ф. Гастэлу было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза, сведкі – загінулі. У гады вайны, ды і пасля яе, і іншых спраў было шмат – так усё і засталося. Толькі ў пачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя, на месцы, дзе, як думалі, загінуў экіпаж М.Ф. Гастэлы, знайшлі рэшткі іншага самалёта і салдацкі медальён з прозвішчам Рэўтаў. А ён у той дзень быў у складзе экіпажа іншага камэскі, капітана А.С. Маслава. Факт пацвердзілі з Цэнтральнага архіва Савецкай Арміі ў Падольску. У тыя гады праўду схавалі, і толькі калі дэмакратычныя перабудовы паднялі заслону сакрэтнасці, аж у 1996-м годзе пра подзвіг экіпажа А.С. Маслава расказалі тагачаснаму Прэзідэнту Расіі Б.М. Ельцыну. Так і з'явіўся Указ аб прысваенні ўсяму экіпажу высокага звання Герояў Расіі, а стралок-радыст казах Б. Бейскбаеў пасля Указа Прэзідэнта Казахстана Н. Назарбаева стаў Народным Героем Казахстана. Подзвіг экіпажа А.С. Маслава апісаны ў кнізе М. Акаловіча «Яны абаранялі Мінск». Але якая цяпер розніца: дзе, хто і калі загінуў?! Асабліва праз 62 гады пасля Вялікай Перамогі! Іх параднiў лёс, іх аб'яднаў час!

Амаль кожны беларус ведае месца каля горада Ушачы Віцебскай вобласці, сімвал партызанскай славы – мемарыяльны комплекс «Прарыў». На жалезных плітах там 1450 прозвішчаў герояў, хто ахвяраваў сваё жыццё за нас, за Незалежнасць, за Беларусь! Тут упісана імя і «Міхаіл Станкевіч». А пахаваны ён у скверы, што ў цэнтры Ушач. Дык хто ён, за што такая павага, гонар і памяць? Міхаіл Захаравіч Станкевіч нарадзіўся ў простай шматдзетнай сялянскай сям'і ў вёсцы Зацэнне (Лагойскі раён Мінскай вобласці). Пасля паспяховага заканчэння школы вучыўся ў Віцебскім падінстытуце і атрымаў званне настаўніка. У школе пасёлка Вялікія Дольцы, куды быў накіраваны, выкладаў гісторыю, літаратуру, добра ведаў нямецкую мову. Высокая працаздольнасць і любоў да прафесіі дазволілі маладому настаўніку ў 20 гадоў быць ужо ў рангу завуча школы. Перад ім заўсёды быў вобраз і прыклад жыцця бацькі, які у 1917-м у складзе матросаў з Балтыкі браў Зімні палац, а ў перадваенным 1937-м па даносе, быццам ён шпіён, ні за што быў расстраляны. І вось і яму выпрабаванне – 1941 год, вайна. І зусім невыпадкова, што ўжо ў першыя дні вайны ён актыўна ўключаецца ва ўсенародную барацьбу з ненавісным ворагам. У Вялікіх Дольцах, Ушачах і многіх іншых населеных пунктах раёна М.З. Станкевіч з сябрамі-аднадумцамі С. Маркевічам і Ф. Дуброўскім стварае падпольныя групы (потым яны сталі самастойнымі партызанскімі атрадамі). У іх хутка ўліваецца ўсё больш і больш чырвонаармейцаў, каму пашанцавала выйсці з акружэння. У барацьбу з захопнікамі ўключаецца амаль усё насельніцтва. З найбольш смелых і мужных ствараецца асобы атрад мсціўцаў па барацьбе з дыверсантамі і ахове пабудоў стратэгічнага прызначэння.

Дзякуючы вялікім здольнасцям знаходзіць нешта агульнае ў размовах з людзьмі і, асабліва дзякуючы дасканаламу валоданню нямецкай мовай, М. Станкевіч змог укараніцца ў самую высокую нямецкую інстанцыю Ушач – жандармерыю. Як у самага вопытнага і смелага, у была рацыя. З яе дапамогай ён перадаваў таварышам зводкі савецкага Інфармбюро, расказваў аб планах ворага, папярэджваў... А ў жандармерыі – даставаў аўсвайсы (пасведчанні) і многія іншыя, так патрэбныя падпольшчыкам і партызанам, бланкі дакументаў. Але хтосьці выдаў патрыёта. Пры вобыску ў кватэры Міхаіла Захаравіча немцы і знайшлі рацыю. Затым быў арышт, шмат допытаў. Але дарэмнымі былі намаганні ворагаў даведацца аб партызанах і падпольшчыках Ушацкай зоны – ён не назваў ім ніводнага прозвішча. І ў сонечны ліпеньскі дзень 1942 года М.З. Станкевіч быў расстраляны. Патрыёты Ушач тайна, ноччу, пахавалі свайго вернага камандзіра і сябра ў самым цэнтры горада – у скверы. У 1944 годзе ў сям'ю Станкевічаў з вёскі Зацэнне Лагойскага раёна прыйшла пахаванка са штаба партызанскага руху Беларусі, дзе ўжо афіцыйна паведамлялася, што іх сын і брат гераічна загінуў падчас абароны Айчыны.






– Боль ад страты стаў большы ў дзесяткі разоў, калі даведаліся, што іншыя выратоўваліся ад смерці звычайнымі салам, яйкамі ці грашамі, – расказваюць родныя брат і сястра героя Антон Захаравіч і Вера Захараўна. – У той страшнай, крывавай вайне загінулі яшчэ два нашы родныя браты: Мікалай (1919 г.н.) і Пётр (1924 г.н.). У цяжкі для Радзімы час яны сталі партызанамі. Загінулі ў блакадах плешчаніцкіх лясоў.

Вось такая гісторыя простай беларускай сям'і, дзе было традыцыяй абараняць Айчыну – не шкадуючы жыцця!

Сімвалаў памяці аб Вялікай Айчынай вайне 1941–1945 гг. на Беларусі шмат, а яе герояў, каму яны не стаяць – яшчэ больш!

***Мечыслаў СТАНКЕВІЧ,***
***аматар-краязнавец,***
***г. Маладзечна***

## *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**ФІЛІПОК** – іспанская манета, на якой Віленскі манетны двор пазначаў кантрамарку ў выглядзе вензеля вялікага князя ВКЛ Жыгімонта ІІ Аўгуста і дату «1564». Маці гэтага ўладара Бона Сфорца пасля прымусовага вяртання з ВКЛ на радзіму ў Неапаль (спрыяла развіццю культуры ў ВКЛ, у прыватнасці выданню паэмы М. Гусоўскага «Песня пра зубра», але і вывезла з сабой безліч багацця) пазычыла каралю Іспаніі Філіпу ІІ Габсбургу 430 тысяч дукатаў (залатыя манеты). Пасля яе смерці сын, Жыгімонт ІІ, пачаў патрабаваць у іспанскага ўладарства вярнуць яму «неапалітанскую спадчыну». Зразумела, доўг не спяшаліся вяртаць, таму пачалі аддаваць яго долямі і ў выглядзе партрэтных паўталераў Карла V, паўталераў і талераў Філіпа ІІ (адсюль і назва – «філіпок»). 16 мая 1564 г. па універсале вялікага князя ВКЛ было абвешчана пра выкарыстанне філіповак – контрмаркіраваных манет (ад франц. маркіраваць – ставіць кляймо, марку на пэўным вырабе). Афіцыйны курс іх ужытку быў устаноўлены ў тагачасныя 60 (талер) і 30 (паўталер) польскіх грошаў (адпаведна – 48 і 24 грошаў ВКЛ); рэальная вартасць філіповак складала толькі 33,5 і 16, 75 польскіх, 26,8 і 13,4 грошаў ВКЛ. У 1565 г. філіпоўкі былі скупленыя ў насельнікаў па афіцыйным курсе і спажыты як сыравіна для грашовых эмісій (эмісія – ад лац. выпуск; ён мог быць і новым у справе пуску ва ўжытак папяровых грошай і каштоўных папер, тым самым мог несці інфляцыйны (з абясцэньваннем) характар). Філіпок – першая ў гісторыі ВКЛ манета з прымусовым (крэдытным) курсам абарачэння.

**ФОЛЬГА** (ад польск. аблягчэнне) ў Статуце ВКЛ 1588 г. было ўжыта як юрыдычнае паняцце паслаблення пакарання ў пэўных правіннасцях. Але не ўсім. Не дазвалялася прымяняць гэта для асуджаных па строгіх артыкулах, у тым ліку і па тых прынцыпах, каб не прычыніць маральнай шкоды пацярпелым. Не ва ўсіх выпадках вінаватым, тым больш злосным злачынцам, было прадугледжана аблягчэнне – нават мець ім належнае для здароўя звычайнае святло, цяпло.

**ФУНДАЦЫЯ** (ад лац. закладанне асноў) – выпадак, калі ўладальнік ахвяроўваў манастырам, цэрквам, касцёлам і інш. зямельныя ўгоддзі (у тым ліку і з сялянамі), грошы, каштоўнасці і інш. Ахвяраванні звычайна рабілі магнаты ці, у асобным выпадку, дзяржава для духоўных устаноў і іх матэрыяльнага забеспячэння. У ВКЛ, калі тут пачалі ўзмацняцца пазіцыі каталіцызму, пачала ўзмацняцца і фінансавая дапамога яму, а не праваслаўю. Толькі ў 1507 г., як лічаць некаторыя даследчыкі, датавана пасля доўгага перапынку грамата пра фундацыю на праваслаўную царкву. Асноўнай формай фундацыі дзяржавы і насельнікаў яе на цэрквы і касцёлы ў першай палове XVI ст. была дзесяціна – натуральны падатак збожжам. У выніку правядзення валочнай памеры дзесяціна ў дзяржаўных уладаннях адмянялася, а цэрквы і касцёлы надзяляліся зямлёй (1–2 валокі; па-сённяшняму, гэта прыкладна 21– звыш 40 га). На карысць рэлігійных канфесій ахвяраванні і наказы былі розныя: зямля з сялянамі, сенажаці, лясы, маёнткі, грошы, каштоўнасці, рухомая маёмасць, сялянскія выплаты ці павіннасці і інш.

**ФУНТ** (з ням. вага, гіра) – даўняя мера масы і ў ВКЛ. Па-сённяшняму, гэта прыкладна трохі менш за 400 г.

# «Куфэрак» са скарбамі

***(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2)***

Пабывалі і ў Музеі кнігі. Нам было цікава даведацца, што тая калекцыя рэдкіх кніг і старадрукаў, якая пачалася стварацца яшчэ пры першым дырэктары бібліятэкі, сёння налічвае каля 70 тысяч экземпляраў. «Евангелие напрестольное», выдадзенае Пятром Мсціслаўцам у Вільні, у друкарні Мамонічаў у 1575 годзе, стараверскія кнігі XVII – пачатку XX стагоддзяў, кітабы – гэта толькі частка таго, што могуць пабачыць усе ахвочыя.

Было арганізавана і наведванне аднаго са старажытнейшых беларускіх гарадоў, які нядаўна адсвяткаваў сваё 1020-годдзе, – Заслаўе. Тут збераглiся каштоўныя помнікі археалогіі, гісторыі, архітэктуры, адкрыты музеі. Адзін з іх – «Хата завозніка». Раней тут спыняліся на начлег тыя, хто прывозіў малоць збожжа (адсюль і назва «завознік»). Як і сто гадоў таму, хата і цяпер прымае гасцей. У музеях «Млын» і «Кузня», якія размешчаны ў музеефікаваных драўляных пабудовах пачатку XX стагоддзя, усе экспанаты дзейнічаюць, і цяжка ўтрымацца, каб самому не паспрабаваць памалоць збожжа ці пастукаць малаткамі ў кузні.

У горадзе створаны адзіны ў Беларусі Дзіцячы музей міфалогіі і лесу, працуе музейна-выставачны комплекс. Тут, у экспазіцыі «Музыка вячорак» можна ўбачыць і, што куды цікавей, пачуць музычныя інструменты, якія існавалі ў розных рэгіёнах Беларусі.

Штогод ў Заслаўі праводзяцца сярэднявечныя фестывалі, рыцарскія турніры, этнаграфічныя святы, кірмашы... І самае галоўнае – горад наведваюць турысты і «погружаются в тысячелетие глубины прошлого, перетекающего в настоящее и грядущее...».

Ёсць у паэта Анатоля Дэбіша ў вершы «Жарынкі» радкі:

*Адчыняю куфэрак...*
*Вачыма маёй бабулі*
*Глядзіць на мяне*
*мінулае.*

Вось і я, наведаўшы курсы, адчыніла для сябе яшчэ адзін «куфэрак» са скарбамі нашай зямлі.

***Наталля РАМАНОВІЧ,***
***галоўны спецыяліст***
***аддзела культуры Гродзенскага райвыканкама***







# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–11)*

Гэтыя і іншыя матывы, заклікаючы просты люд не апанільвацца, а верыць у лепшую сваю долю і пачаць з таго, што сябе трэба лічыць не быдлам, а чалавекам, дабівацца свайго, паэт развівае ў вершах «Не тужы», «Пойдзем», «Што ты спіш, што ты спіш», «Беларускі мужык», «Не чакай...» («Не чакай, што ржа з гадамі / Паесць ланцугі, / Што мінуцца сабой самі / Нагайкі, штыхі»), «Усе разам» і інш. Не мог не зрабіць яму гонар грамадзяніна і паэта, напісаны ў 1906-м верш «Водклік з 29 кастрычніка 1905 г. у Мінску». Як вядома, Мікалай II са сваім найбліжэйшым акружэннем напалохаўся ўсеагульнай палітычнай стачкі ў імперыі і 17 кастрычніка 1905 г. выдаў маніфест, дзе сваім падуладным гарантаваў і пэўныя правы. Гарантыі гэтыя былі невялікія і няпэўныя, дык і ў Мінску, на прывакзальнай плошчы, сабраўся мітынг (каля 15 тысяч чалавек), дзе прагучалі большыя патрабаванні. Насцярожаны мінскі губернатар Курлоў, каб суцішыць мітынгоўцаў, спачатку згадзіўся выпусціць з турмаў палітычна зняволеных, а пасля па яго загадзе падцягнутыя вайсковыя часці адкрылі агонь па дэманстрантах. У выніку было шмат забітых і параненых. Пахаванне загінулых 29 кастрычніка перарасло ў антыўрадавую дэманстрацыю. Царскі ўрад адрэагаваў на нечаканае бунтарства мінчукоў, якія таксама пачалі дбаць пра сваю годнасць, жорстка: 9 снежня Мінск быў аб'яўлены на надзвычайным становішчы, былі дадзены павышаныя правы цывільнай уладзе, ахранцы і паліцыі, каб задушыць тут усякае вольнадумства. Вось толькі два радкі з гэтага даволі аб'ёмістага Купалавага верша зазначалі наступнае:

*Вось тут пазнай,*
*ці свабоду нам далі,*
*Ці ашуканствам у бойню загналі?*

Адпаведна, як перад сабой, так і перад іншымі творцамі ён пачаў даволі востра вылучаць грамадзянскае і прафесійнае пытанне не толькі пра назначэнне паэзіі ўвогуле, але і зразумець паэта беларускага. Маўляў, трэба, якімі павінны быць мы і наша паэзія («Чаго б я хацеў», «Паэтам», «Паэзія», «Я не паэта» («Завуся я толькі – Янка Купала»), «Не дайце згінуць песняру», «З маіх песень» і інш.). Сціпла вызначае сваё месца:

*Буду пець не за славу,*
*праз вас абяцаную;*
*Буду пець, бо люблю*
*свайго краю паляны.*
*Буду пець, бо люблю сваю песню*
*загнаную;*
*Буду пець, бо мне дар гэты*
*доляй пасланы.*
(«Адповедзь»)

*(Працяг будзе)*



Маніфестацыя ў Мінску, кастрычнік 1905 г.

## «Хто падумаў пра наступствы "перабудоў" у выкладанні гісторыі Беларусі?»

Дазвольце выказаць свае меркаванні ў абарону выкладання гісторыі Беларусі ў школах з рускай і беларускай мовамі навучання толькі на беларускай мове.

Мы будуем нацыянальны суверэнны дом. Яго падмуркамі з'яўляюцца нацыя, Радзіма, дзяржава. У руках настаўніка будучыня гэтых падмуркаў. Мы імкнемся заняць годнае месца ў еўрапейскай цывілізацыі і сусветнай супольнасці. І як не ўспомніць у сувязі з гэтым Ф.М. Дастаеўскага: «Чым больш мы будзем нацыянальнымі, тым больш мы будзем еўрапейцамі».

Вядома, што ў сваіх дзеяннях звычайныя людзі кіруюцца пачуццямі і інтарэсамі, чыноўнікі і палітыкі ў сваіх дзеяннях кіруюцца толькі інтарэсамі. Незразумела, у чыіх інтарэсах чыноўнікі з адукацыйнага алімпа прымалі рашэнне аб пераводзе выкладання гісторыі Беларусі на рускую мову? Нацыі? Радзімы? Дзяржавы?

Вучэбна-выхаваўчая работа ў школе – вельмі жывы, складаны і рухавы працэс. Ён патрабуе прадуманай сістэмы і перспектывы. Не апошняя роля ў гэтым працэсе адводзіцца гуманітарным прадметам, якія маюць вялікую маральную нагрузку, фарміруюць культуру выбару.

З выкладаннем гісторыі Беларусі ў апошні час наладзілася. Распрацаваныя праграмы, падрыхтаваныя добрыя падручнікі з цудоўным дакументальным матэрыялам і метадычным апаратам – склалася сістэма. А хто парушыў сістэму? Чыноўнікі.

Прывяду некалькі прыкладаў. У 6-м, 7-м, 8-м класах гісторыя Беларусі выкладалася на беларускай мове. У 9-м класе вучням далі падручнік на рускай мове. Гэта факт выкладання гісторыі Беларусі ў школе з рускай мовай навучання.

Пра маленькага чалавека забыліся, стварылі яму цяжка вырашальныя праблемы. Як можна абараніць сваё рашэнне ў адпаведнасці з Законам «Аб мовах», Законам «Аб адукацыі», Законам «Аб агульнай сярэдняй адукацыі»? У чыіх інтарэсах дзейнічаюць законы? У дадзенай сітуацыі законы не абараняюць ні мову, ні вучняў. А павінны абараняць і мову, і вучняў.

У 8-м класе вывучаецца тэма «Умовы і асаблівасці фарміравання беларускай нацыі», у рамках гэтай тэмы вывучаюцца і праблемы фарміравання нацыянальнай самасвядомасці. Менавіта ў курсе гэтай тэмы падкрэсліваецца, што беларуская мова на тэрыторыі «Северо-Западного края именовалась местным наречием». Аказваецца, што ў канцы XIX ст. не было ні Беларусі, ні беларускай мовы. Аб становішчы мовы ў гэты час можна гаварыць доўга. Скажыце, як настаўніку глядзець у дапытлівыя вочы вучняў, калі аб гэтым гутарыць з імі на рускай мове? Якімі законамі ці пастановамі абараніцца настаўніку ад таго, што мы гаворым адно, а робім іншае? Дзіцячую псіхіку вельмі лёгка заразіць. А заразіць можна толькі тым, што маеш сам. Чаму мы не дапамагаем маленькаму чалавеку зрабіць выбар? А як працаваць над фарміраваннем веры і перакананасці, калі словы і справы разыходзяцца?

Хто падумаў пра наступствы «перабудоў» у выкладанні гісторыі Беларусі?

...А настаўнік працуе над выкананнем законаў, пастаноў і маўчыць. Маўчыць настаўнік не таму, што яму няма чаго сказаць альбо ён з усім згодны. Калі ж настаўнік паспрабуе выказаць сваю нязгоду ці паставіць нейкае пытанне, гэта абавязкова не спадабаецца тым, чые пасады ад адукацыі вышэйшыя за пасаду настаўніка. Адказ будзе адзін: «Сваім пытаннем вы сведчыце аб тым, што не ўмееце працаваць і не збіраецеся вучыцца працаваць».

У Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь спасылаюцца на тое, што ў школе «вялікая колькасць гадзін на вывучэнне беларускай мовы» («Звязда» ад 24 студзеня 2007 г.). Давайце падлічым. Сталае разуменне вучнямі моўных працэсаў пачынаецца з 8-га класа. У 8-м класе на вывучэнне мовы і літаратуры адводзіцца 105 гадзін на вучэбны год; у 9-м – 105; у 10-м і 11-м класах – па 95. Па новым вучэбным плане, які ўводзіцца, на вывучэнне беларускай мовы і літаратуры адпускаецца па 70 гадзін на год... Дапамагаў настаўніку-філолагу настаўнік гісторыі, але ж беларуская мова камусьці перашкодзіла. У барацьбе за годнае месца беларускай мовы ў настаўніка памочнікаў мала. Асабліва прыкра, што не з'яўляецца памочнікам тэлебачанне, якое называецца нацыянальным.

Я асабіста не ведаю такой дзяржавы, у якой бы адносіліся да роднай мовы так, як мы. Магчыма, я памыляюся? І калі б не беларускае радыё, то становішча нашай мовы было б вельмі падобнае на тое, у якім яна была ў часы «Нашай Нівы». Вельмі ўжо набалела...

***Валянціна ГЕРАСІМАВА,***
***вёска Жылічы Кіраўскага раёна***
*(Паводле газеты «Звязда» ад 20 лютага 2007 г.)*

## ...І Купалу, і Коласу,

### або Перадумовы пачатку іхняй літаратурнай творчасці

*(Заканчэнне. Пачатак у № 10, 11)*

На пачатку XX стагоддзя гэтыя ідэі працягвалі развіваць нешматлікія беларускія грамадскія і палітычныя дзеячы, вучоныя, пісьменнікі (І. і А. Луцкевічы, А. Уласаў, браты Іваноўскія, Цётка, В. Ластоўскі і інш.). Ды, мабыць, асабліва востра і адказна Я. Купалу і Я. Коласу выпалі як чалавечы, гістарычна-культурны шанец не тайна на рэвалюцыйных сходках, не намёкамі ў друку, а адкрыта ў першых афіцыйных беларускамоўных газетах («Наша доля», 1906; «Наша Ніва», з канца 1906-га) агучыць беларускасць, належна прышчапіць яе. Каб новыя парасткі і галіны акультурылі старое дрэва, каб яно не высахла і «не ўмёрла». Жывучы не ў гарадах і мястэчках, дзе асноўныя насельнікі былі яўрэі, рускія, палякі, а ў вёсках, дзе паводле расійскага перапісу 1897 года, было да 90 адсоткаў беларускіх насельнікаў, яны, будучыя нашы класікі, не маглі і не мелі ніякага маральнага права абмінаць самай вялікай увагай самую вялікую беларускую масу, многіх з якой да названага часу ўлады пераўтварылі ў непісьменных, «цёмных», «няздольных як да нацыянальна-дзяржаўнай дзейнасці, так і да прыгожага пісьменства на сваёй хамскай мове». Быў слаба развіты беларускі сярэдні рабочы клас (царызм не развіваў на Беларусі буйной прамысловасці). У выніку гэтага і іншага Беларусь была без значнага элітнага слою беларускай інтэлігенцыі ва ўсіх галінах.

Прыкладна вось гэтае і вызначыла «мужыцкі» характар першых паэтычных дэкларацыйных публікацый Я. Купалы і Я. Коласа. Канстатуючы гаротнасць сялян, іхняй Бацькаўшчыны і культуры, яны заклікалі родны люд абудзіцца, усвядоміць сябе годнымі людзьмі, сынамі старажытнага народа, імкнуцца да асветы і самім больш дбаць пра сябе, пра сваю паўнацэнную будучыню. Дарэчы, што датычыць публікацыі першага верша Я. Коласа, то дух яго (ёсць надрукаванае сведчанне) не ўхваліў і яго родны маладзейшы брат Міхась – таксама выпускнік Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. За тое, што брат-паэт залішне прыніжае беларускі сялянскі мацярык. Ды...

...За першыя тры гады дзейнасці «Наша Ніва» здолела заваяваць сэрцы шматлікіх чытачоў, якія з яе беларускімі словамі пачалі дыхаць з палёгкай, адчуваючы, што і з паўпрызнаннем іхняй мовы і беларускай народнасці адступае ўдушлівы і зацяглы спадчынны «задаток горестей» (М. Карамзін). У юбілейным нумары «Нашая Ніва» дала такія звесткі: за названы час на яе старонках было надрукавана 906 карэспандэнцый з 489 вёсак і мястэчак, 246 вершаў 61-го аўтара і 91 апавяданне шматлікіх празаікаў. Зразумела, не ўсе з тых аўтараў сталі вядомымі творцамі, з усіх іх найперш вызначыліся Я. Купала і Я. Колас – глыбокім асэнсаваннем лепшых традыцый беларускай літаратуры XIX стагоддзя, пераадоленнем вузкіх этнаграфічных і правінцыйных абсягаў, дыялектнасці, выпрацоўкай беларускай літаратурнай мовы і адпаведных стыляў, што дало ім поўнае права стаць заснавальнікамі ўзору новай беларускай літаратуры, паскорана падымаць яе на агульнаеўрапейскі ўзровень, моцна ўплываць на нацыянальную свядомасць і беларускую нацыянальна-дзяржаўную ідэю. І ўсё гэта дзякуючы найперш ёй – ажылай, дапушчанай да афіцыйнага ўжытку Яе Вялікасці Беларускай мовы!.. А з ёю беларус адчуў сябе «вышэй!».

Ды царскі рэжым, чарнасоценныя ягоныя віжы-служкі ў Паўночна-Заходнім краі зусім не жадалі і яркім талентам Я. Купалы, Я. Коласа даваць творчы разгон, зрабіць тое і так, што і як зрабілі ўжо суседзі. «Горестный задаток» не зусім адпускаў і іх, прызнаных з першых публікацый: першаму трэба было шукаць чорнарабочай працы для заробку на пражыванне, а другому – у 1908-м на тры гады сесці ў турму. За «грахі», у аснове якіх ляжала шчырая любоў да Бацькаўшчыны, яе гісторыі, мовы і культуры, жаданне быць прыстойным чалавекам, педагогам і творцам дзеля роднага народа. Але і новыя цяжкія выпрабаванні не пахіснулі іхняй веры, моцы, не адвабілі ад ужо знойдзенага і верна ўзятага гуку...

## З «Каласавінаў»

*Нагадаем чытачу: «Каласавіны» – так называецца навуковая канферэнцыя, што болей за 20 гадоў праводзіцца ў Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа і прысвячаецца вывучэнню самых розных аспектаў жыцця і творчасці песняра. У канферэнцыі прымаюць удзел супрацоўнікі музея, вядомыя і маладыя навукоўцы, бібліятэкары і музейныя работнікі з усіх рэгіёнаў Беларусі.*

*Па выніках канферэнцый асобным выданнем выходзяць іх матэрыялы. Выданні маюць невялікі тыраж, таму яны адразу становяцца бібліяграфічнай рэдкасцю.*

*Мы па-новаму азнаёміліся з імі: колькі нечаканых і цікавых Коласавых тэм! Скажам, хіба не трэба вялікіх ахвоты і стараннасці, каб даследаваць, напрыклад, колькі і ў якіх выпадках Я. Колас у паэме «Новая зямля» ўжывае азначэнне розных колераў і якое гэта набывае мастацка-эстэтычнае значэнне?! Ці такая тэма: «Батанічная лексіка ў паэме "Новая зямля" Я. Коласа»?*

*Ніжэй са згоды Коласавага музея змяшчаем урывак з даследавання «Педагагічная постаць маладога настаўніка Якуба Коласа».*

# Педагагічная постаць
## маладога настаўніка Якуба Коласа

Педагагічныя погляды настаўніка Якуба Коласа і яго дзейнасць звязаны перш за ўсё з нацыянальным кірункам у развіцці школы і педагагічнай думкі Беларусі пачатку XX стагоддзя. Асноўным фактарам развіцця беларускага грамадства, яго нацыянальнай самасвядомасці настаўнік лічыў нацыянальную школу.

За ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні нелегальнага з'езда настаўнікаў Мінскай губерні (1906) ён быў затрыманы паліцыяй і звольнены з настаўніцкай пасады. Знаходзячыся пад следствам, большую частку часу жыў у лясніцтве, у свайго старэйшага брата, дзе зімой 1906–1907 гадоў арганізаваў ва ўрочышчы Смалярня каля Стоўбцаў прыватную нелегальную школу, у якой навучалася 12 вучняў. Гэта была адна з першых на Беларусі школ з навучаннем на беларускай мове.



Настаўнік 3-й прыходскай школы К. Міцкевіч (1912 г.)

У гэтыя ж гады Я. Колас напісаў шэраг артыкулаў па пытаннях педагогікі, у якіх адстойваў правы беларускага народа: вучыцца ў школе на роднай мове. У артыкуле «Беларуская мова ў казённай школе» (1906) ён асвяціў моўную праблему не толькі ў школе, але і значна шырэй, ва ўсім беларускім грамадстве. Падыходзячы да гэтай праблемы з пункту гледжання беларускага інтэлігента, «які цураецца свайго ўсяго роднага», аўтар адзначыў, што для адказу на пытанне, чаму беларускую мову называюць «мёртвай», неабходна ведаць гісторыю роднага краю, характар унутранай, расійскай, казённай палітыкі.

У артыкуле дадзены вострыя, дакладныя ацэнкі гістарычных, сацыяльна-ідэалагічных прычын зневажальных адносін значнай часткі беларусаў да сваёй мовы, закаранелых у іх псіхіцы комплексаў нацыянальнай непаўнавартасці, Якуб Колас адзначаў, што нянавісць будучага інтэлігента-беларуса да роднай мовы засяваецца з дзяцінства, з навучання ў народнай школе, а потым у семінарыі, дзе ўсё прыстасавана дзеля таго, «каб не толькі забіць да канца ў беларуса ўсё тое беларускае, што яшчэ засталося ў душы яго, але і каб з яго зрабіць пакорлівую авечку, забіць мазгі, адным словам, выпусціць на свет балванчыка».



**Малюнак Васіля Шаранговіча да паэмы "Новая зямля", выдадзенай Беларускім фондам культуры на трох мовах**



У 1806 годзе, калі Я. Колас працаваў настаўнікам у прыватнай нелегальнай беларускай школе ў вёсцы Смалярня, яму прыйшла ідэя стварэння кнігі-чытанкі для беларускіх дзяцей. Гэта думка яшчэ больш замацавалася ў перыяд яго працы ў прыватнай школе пана Гардзелкоўскага на Магілёўшчыне. Следам за Ул. Іваноўскім і К. Каганцом («Беларускі лемантар, або Першая навука чытання», 1906) і Цёткай («Першае чытанне для дзетак беларусаў», 1906), будучы народны пясняр задумаў кнігу, якая павінна была садзейнічаць першапачатковаму навучанню роднай мове і чытанню ў народных школах Беларусі.

«Другое чытанне для дзяцей беларусаў» (Пецярбург, 1910. – Рэд.) Я. Коласа ў адрозненне ад «Першага чытання» Цёткі больш адпавядала дзіцячаму ўзросту, больш шырока адлюстроўвала падзеі і з'явы жыцця. Аднак галоўная мэта гэтых нацыянальных падручнікаў для беларускіх дзяцей была адзінай – навучанне і выхаванне на роднай мове. Як прадстаўнікі педагагічнай думкі, Цётка і Якуб Колас лічылі, што апісанне малюнкаў беларускай прыроды ў кнігах для дзяцей з'яўляецца крыніцай ведаў, сродкам маральна-эстэтычнага і патрыятычнага выхавання. У аснову абедзвюх кніжак пакладзены агульны дыдактычны прынцып, які заключаецца ва ўзыходжанні ад простага да складанага пры выкарыстанні звычайнага, зразумелага матэрыялу беларускага наваколля. Але ў сэнсе тэматыкі, асаблівасцяў стылю і мовы кніжка Якуба Коласа складзена больш удала. Аўтар бачыў сваю задачу ў складанні такога матэрыялу для чытання, які б садзейнічаў пашырэнню кругагляду беларускіх дзяцей, абуджаў бы нацыянальную самасвядомасць, розум, вучыў бы эстэтычнаму ўспрыманню з'яў навакольнай рэчаіснасці, абагачаў бы іх мысленне і мову. У «Другім чытанні» як бы зліліся ў адзінае такія працэсы, як асваенне нормаў беларускай мовы, вывучэнне лепшых твораў нацыянальнай літаратуры і асэнсаванне з'яў сацыяльнага жыцця і прыроды.

«Другое чытанне», якое складалася з 110 старонак аўтарскага тэксту і патрыятычнай прадмовы Л. Сеўрука, разбіта на сем раздзелаў. Матэрыялы першых частак прысвечаны порам года – вясне, лету, восені, зіме. У пятым раздзеле «Родныя вобразы» змяшчаюцца вершы і проза пра жыццё сялян беларускага Палесся, прасякнутыя сацыяльным гучаннем.

Вялікі выхаваўчы патэнцыял Я. Колас бачыў у фальклоры, у народнай педагогіцы. Ён разумеў, што дзеці любяць казкі, якія вабяць сваім аптымізмам і гумарам, дабрынёй і фантастычнасцю, але ў той жа час цеснай сувяззю з жыццём. Таму ў апошні раздзел увайшлі казкі, апрацаваныя таленавітым пісьменнікам і педагогам, даступныя па форме і цікавыя па змесце.

Пры стварэнні «Чытанкі» Якуб Колас шмат увагі ўдзяляў правільнай метадычнай падачы матэрыялу. Першая ж рубрыка «Вясна» пабудавана такім чынам, што кожная з яе пяці частак уяўляе сабой закончаную думку і можа існаваць самастойна. Такая пабудова тэксту зручная для работы і ў класе, і дома. Пры разборы гэтага твора не цяжка выкарыстоўваць пытальна-адказную форму работы, на аснове якой можна было б даць назву кожнай частцы «Вясны». Напрыклад, 1) таянне снегу; 2) сонца; 3) рака; 4) людзі назіраюць разліў ракі; 5) павучэнне дзецям. Гэты план можа быць з поспехам рэалізаваны ў такіх метадах навучання, як апавяданне ці гутарка. Пасля працы непасрэдна з тэкстам Якуб Колас прапаноўвае дзецям заданне, якое патрабуе: 1) успомніць і паўтарыць усё, што звязана з восенню; 2) зрабіць гэта паралельна з тымі думкамі, якія навеяла ім вясна; 3) вельмі добра падумаць і адказаць: «Чаму думкі асеннія не падобны на думкі вясны?». Такі прыём дазваляе выкарыстоўваць на ўроку паўтор, параўнанне, пераказ, і як вынік – нараджэнне ўласных думак, поглядаў на з'явы прыроды і грамадскага жыцця.

«Чытанка» Якуба Коласа, яго іншыя творы для дзяцей і дарослых садзейнічалі нацыянальнаму адраджэнню Беларусі, актывізацыі руху за родную мову і беларускую школу.

*Святлана СНАПКОЎСКАЯ*

---

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–11)*

# Падрыхтоўка... да турмы,
## Або Якуб Колас у 1906–1908 гады

У той перыяд царскі ўрад пасля забароны 1840-га пачаў даваць пэўны дазвол на афіцыйнае ўжыванне беларускай мовы, на развіццё самастойнай культуры і літаратуры на ёй, тым не менш маладыя беларускія паэты прыцягнулі ўвагу не толькі прыхільнікаў іхняга таленту, усіх шчырых і сумленных патрыётаў Бацькаўшчыны, але і царскай ахранкі ды паліцыі – так сказаць, «мастацтвазнаўцаў у пагонах». Напрыклад, за Я. Купалам віжавалі і збіралі на яго крамольныя факты, а Я. Коласа, звольніўшы ўлетку 1906-га з працы за ўдзел у настаўніцкім з'ездзе беларускіх настаўнікаў у Мікалаеўшчыне, пачалі рыхтаваць да судовага працэсу.

Як зазначаў Г. Кісялёў у даследаванні «З жыццяпісу Якуба Коласа», у Вільні ёсць дзве архіўныя справы, дзе адлюстраваныя следства і суд над К. Міцкевічам (Я. Коласам) і яго сябрамі ў сувязі з іх удзелам у вышэйназванай сходцы і рэвалюцыйным руху. А іменна: а) дакументы пракурора Віленскай судовай палаты «О съезде народных учителей в селе Николаевщине Сверженской волости» (61 ліст); б) дакументацыя Віленскай судовай палаты «О кр(естьянах) Константине Михайлове Мицкевиче..., обв(иняемых)... (далей з указаннем артыкулаў Крымінальнага кодэксу (уложения), усяго 175 лістоў). Сам Я. Колас пра тыя крамольныя падзеі ў сваім маладым жыцці напісаў найбольш падрабязна і поўна ў трылогіі на «На ростанях» і ў артыкуле «З поваду майго юбілею». Цікавыя ўспаміны пра тое пакінуў Коласаў зямляк А. Сянкевіч (1884–1939; публіцыст, дзяржаўны дзеяч БССР, прататып Сташынскага ў рамане А. Фадзеева «Разгром», Садовіча ў трылогіі «На ростанях», Баса-Грэцкага ў Коласавай п'есе «Забастоўшчыкі»; частка яго мемуараў ёсць у даследаванні Г. Кісялёва).

Пазней да вывучэння гэтага пытання звярталіся многія літаратуразнаўцы. Сярод адпаведных прац варта добрым словам успомніць публікацыю Ю. Пшыркова «Судовая справа Якуба Коласа» ў кнізе «Беларуская літаратура і літаратуразнаўства», выпуск 4 (Мн., 1976). Г. Кісялёў у сваім даследаванні прывёў 14 розных дакументаў, прысвечаных настаўніцкаму з'езду, і 36 – справам следства і суда, найперш датычных Я. Коласа. У ім, у прыватнасці, гаварылася: «Виновный в участии в сообществе, заведомо поставившим целью своей деятельности ниспровержение существующего в государстве общественного строя или учинение тяжких преступлений посредством взрывчатых веществ или снарядов, наказывается каторгою на срок не свыше восьми лет или ссылкою на поселение. Если такое сообщество заведомо имело в своем распоряжении средства для взрыва или склад оружия, то виновный в участии в таком сообществе наказывается срочною каторгою».

*(Працяг будзе)*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*







***Вось ізноў прыйшоў год, калі мы ў чарговы раз адзначаем юбілей самых вялікіх людзей Бацькаўшчыны, сапраўдных апосталаў беларускай нацыі – Янкі Купалы і Якуба Коласа. Праходзіць святкаванне прыстойна, урачыста, як таго і патрабуе славутая дата. Якіх ужо толькі не праведзена мерапрыемстваў з гэтай нагоды. Многія з іх заканчваюцца пад гучныя воклікі «Жыве Беларусь!» А ці і на самой справе жыве яна сёння? Пытанне гэта хвалюе многіх заклапочаных бязрадасным лёсам Бацькаўшчыны. Не дае яно спакою і мне. Таму і пажадалася супаставіць свае меркаванні пра сучасны стан нацыянальна-культурнага будаўніцтва, культурна-моўнага жыцця з тымі думкамі, якія ў свой час выказваў па дадзеных праблемах наш дарагі, незабыўны Купала.***




Буйныя няўдачы, вялікія страты ў барацьбе з царызмам падчас нацыянальна-вызваленчых паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гадоў надоўга спаралізавалі актыўнасць беларускага народа. Хоць рэвалюцыя 1905–1907 гадоў трохі і абудзіла яго, але не да такой ступені, каб змаганне за волю, прыстойнае нацыянальнае жыццё набыло ўсеагульны характар. У іншых нярускіх народаў такі рух быў намнога мацнейшы. Падобнае становішча не магло не хваляваць Я. Купалу, бо ён добра разумеў, што пры пагалоўнай пасіўнасці людзей не забяспечыш роднаму краю такой жаданай волі. Вось таму ў артыкуле «Больш самачыннасці» (1919) беларускі апостал так настойліва заклікаў у гэты складаны, адказны час не чакаць дапамогі ад прышэльцаў, а самім брацца за навядзенне належнага парадку ва ўласным доме:

*«Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця – гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, – павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі да сябе.*

(...) *Дык больш самачыннасці, больш смеласці к друкаванню свайго новага незалежнага жыцця».*

Востры дэфіцыт на такую самачыннасць людзей так і не ўдалося нам пераадолець. На яго мы моцна хварэем і сёння, у чым маем права абвінавачваць і саміх сябе. Характэрны для апошніх гадоў занепад беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння нельга тлумачыць толькі супраціўнай яму дзяржаўнай палітыкай. Не думаецца, што яна больш антыбеларуская за палітыку чужых дзяржаўных рэжымаў на нашай зямлі ў 1905–1920 гады. Аднак менавіта гэтаму перыяду Я. Купала даў такую характарыстыку ў прамове да 15-годдзя сваёй літаратурнай дзейнасці:

*«Ні адно на свеце адраджэнне народа, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народа. (...) Арлiным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, што Беларусі не было і няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае на сонца, мы паказалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе. Значыцца ўмелі працаваць з людзьмі, нягледзячы на адсутнасць спрыяльных умоў для гэтага».*

Таму не варта спасылацца на гэтыя ўмовы, а лепш будзем настойліва шукаць шляхі стварэння сапраўднай суверэннай беларускай дзяржаўнасці, рупліва напаўняць, узбагачаць культурнае жыццё краіны яе прыродным матэрыялам.

Не будучы палітыкам-прафесіяналам, Я. Купала не ў прыклад абсалютнай бальшыні сённяшніх дзяржаўных дзеячаў вельмі добра ўсведамляў сабе ролю незалежнага, суверэннага развіцця нашай Бацькаўшчыны. Многім жа іншым такая праблема падавалася на пачатку XX стагоддзя не вартай увагі, бо яны забыліся на той час, калі былі гаспадарамі на роднай зямлі. Каб у людзей выклікаць цягу да вольнага палітычнага жыцця, Купала выступае ў 1919 годзе з вельмі змястоўным па такой праблеме артыкулам «Незалежнасць». У ім даводзіцца чытачу пра тое, чаго ён ніколі не сустракаў у кнігах: у беларусаў багатыя традыцыі незалежнага дзяржаўнага развіцця, яны маюць усе правы ганарыцца Вялікім Літоўска-Беларускім княствам, у якім «беларуская культура высока трымала свой сцяг». Нічога падобнага, адзначалася ў артыкуле, не назіралася, калі наш край апынуўся ў складзе Рэчы Паспалітай, а затым – Расійскай імперыі. Улады адной і другой:

*«Глядзелі скоса на Беларусь, глядзелі то як на "крэсы", то як на "окраину", і больш нічога. А беларус стагнаў і стагнаў. З гэтага мы бачым, бачым з практыкі, вынесенай на сваёй скуры, што залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылезе.*

*І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу».*

Як верыцца і сёння кожнаму слову нашага Празарліўца! Нягледзячы на тое, што так мала часу мінула ад моманту стварэння рэальна суверэннай уласнай дзяржавы – Беларускай Народнай Рэспублікі – і да апублікавання гэтага купалаўскага артыкула.

Янка Купала не сумняваўся, што ў выніку працяглай і ўпартай ідэалагічнай апрацоўкі беларусаў заўзятымі прыхільнікамі польскага і рускага вялікадзяржаўнага шавінізму ў пэўнай частцы людзей маглі панаваць ілюзіі, што ўсё ж можна здабыць сабе сапраўднае шчасце ў палітычным саюзе ці з Польшчаю ці з Расіяй, таму пра пільную неабходнасць здабыцця Беларуссю поўнай дзяржаўнай незалежнасці яму яшчэ не раз даводзілася пісаць і гаварыць. Не абмінуў гэтага і ў напісаным у 1919 годзе артыкуле «Незалежная дзяржава і яе народы», папярэджваючы чытача, што:

*«Кожная... дзяржава, якая на рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне спрыяць для народа гэтых забраных зямель. І якімі прыгожымі не прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзена нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей, – усё гэта будзе абманам».*

Такога погляду на дадзеную праблему прытрымліваюцца і сучасныя дальнабачныя нацыянальна-палітычныя дзеячы, затое ў высокіх уладных структурах да яе зусім іншае стаўленне: не купалаўскае. Таму і застаецца шмат што няздзейсненым з таго, чаго так хацеў Купала. Ён моцна верыў:

*«Калі вольнага народнага духу не апануе цёмная сіла і ён будзе далей сягаць па-арлінаму, то справа вызвалення Беларусі сягне на такую вышыню, якую наша Бацькаўшчына заслужыла векавечным падняволеннем».*

З болем даводзіцца канстатаваць, што такога не адбылося. Беларусам раней не давалі і сёння ўсяляк перашкаджаюць «сягаць па-арлінаму» ў справе нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, самабытнага культурнага развіцця, таму іх Бацькаўшчына працягвае знаходзіцца ў падняволеным стане, яе ўлады нічога не робяць, каб забяспечыць уласнаму народу рэальную магчымасць жыць і развівацца ў адпаведнасці з прыроднымі культурна-моўнымі традыцыямі. Няцяжка ўявіць: калі так і надалей працягнецца, як актуальна будуць гучаць радкі з купалаўскага верша «Роднае слова» (1910):

*Пад навалай крыўдаў*
*многія сталецці*
*Мы няслі пакорна лямку*
*беспрасвецця,*
*Мы няслі – усё ныла,*
*гінула памалу,*
*Аж не нашай наша*
*бацькаўшчына стала.*

Недаравальна, што ў час, калі Беларусь няхай сабе і фармальна лічыцца незалежнай дзяржавай, у нас многія паранейшаму не прыслухоўваюцца да разумных парад уласнага Прарока і, як вынік, застаемся ў такім самым гаротным становішчы, як на пачатку мінулага стагоддзя. Тое ж становішча наступным чынам характарызаваў у 1914 годзе Я. Купала:

*«Нашай Бацькаўшчыне вечна ні ў чым не шанцавала; вечна павінна была несці на сваіх плячах ярмо той ці іншай няволі. Палітычна і эканамічна падпадала ў залежнасць ад чужынцаў...»*

Ніколькі не лішнім будзе яшчэ раз падкрэсліць, што віна за нашу сённяшнюю няўпэўненасць у далейшым нацыянальна-дзяржаўным развіцці кладзецца перш за ўсё на плечы самага высокага рангу палітыкаў і адданых ім ідэолагаў. Гэта дае падставы парэкамендаваць ім уважліва ўчытацца ў артыкул Янкі Купалы «За цэласць Бацькаўшчыны», у якім ёсць такія праўдзівыя, павучальныя радкі:

*«...Перад намі ёсць толькі адна дарога: цвёрда стаяць на грунце нашай дзяржаўнасці. З гэтай дарогі беларусы не павінны, не маюць права зыйсці ні на адзін момант...*

*Беларусь... можа шукаць апоры ў суседзяў хаця б цаной дзяржаўнага саюзу* (саюзу, а не саюзнай дзяржавы! – **Л.Л.**) *з тым ці іншым з паміж іх. Але і робячы саюз, падпісваючы тыя ці іншыя ўмовы, Беларусь павінна рабіць гэта паводле вольнай волі сваёй, павінна выступаць як непадзельная суверэнная дзяржава...»*

Больш як дзевяноста гадоў таму малады, яшчэ мала каму вядомы Іван Луцэвіч напісаў у Пецярбургу артыкул «Ці маем мы права выракацца роднай мовы» (1910). Выракаліся ж яе многія, хто скончыў чужацка-моўныя навучальныя ўстановы і пайшоў на службу, бо і там перад беларускай мовай таксама трымалі шчыльна зачыненымі не толькі дзверы, але і вокны. Таму, сцвярджаецца ў артыкуле:

*«Асталіся мы на самым апошнім месцы, ніжэй парога, паміж усіх чыста славянскіх народаў; асталіся мы, як блудныя авечкі, без пачуцця, без веры ў новую светлую будучыню».*

Да якой гэта вялікай нацыянальнай катастрофы прывядзе беларусаў далейшае вырачэнне роднай мовы Купала вельмі добра ведаў і таму хацеў іх як-небудзь засцерагчы, абразуміць. Ну хаця б і такімі словамі:

*«Самы важнейшы і непераломны закон жыцця – гэта людская мова, праз каторую чалавек стаў найвышэйшай ад усякага стварэння пад сонцам.*

(...) *мова якога-небудзь народа ёсць для яго і скіпетрам, і каронай, яго нічым не апаганенай аздобнасцяй.*

(...) *Праз памяць на магільныя наспы і крыжы, пад якімі бясчасна змарнеўшыя ў няволі спяць нашы дзяды і прадзеды, праз памяць на сваіх матак, каторыя нас сваёй грудзёй ускармілі, – выракацца роднай мовы мы не маем права».*




***...Не забывацца б тыя словы не толькі ў дзень пісьменства...***

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

***Леанід ЛЫЧ,***
***доктар гістарычных навук, прафесар***

*(Працяг будзе)*

Нарадзіўся Іларыён Сямёнавіч Свяціцкі на Львоўшчыне ў сям'і народнага настаўніка. Даўнія ж продкі яго паходзяць з Беларусі. У 1899 годзе скончыў філасофскі факультэт Львоўскага універсітэта і паступіў у археалагічны інстытут у Пецярбургу.

У 1905 годзе арганізаваў Нацыянальны музей, дырэктарам якога працаваў аж да 1952 года. Акрамя гэтага, выкладаў у Львоўскім універсітэце. Тут у 1913 годзе ён атрымаў званне дацэнта славянскай філалогіі. З 1939 года Свяціцкі – старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук УССР і прафесар Львоўскага дзяржаўнага універсітэта імя Івана Франко. Неўзабаве атрымаў вучоную ступень доктара філалагічных навук. Пасля Вялікай Айчыннай вайны Свяціцкі становіцца кіраўніком аддзела мовазнаўства Інстытута грамадскіх навук АН УССР і загадчыкам кафедры славянскай філалогіі ў Львоўскім дзяржаўным універсітэце. Неаднаразова выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета УССР.

Чым жа тлумачыцца такая шырокая зацікаўленасць Свяціцкага Беларуссю? Мусіць тым, што ён наогул быў даследчыкам славянства, і супольнасцю лёсаў бяспрыкладна блізкіх у славянскім свеце двух народаў: беларускага і ўкраінскага, ды, напэўна, кроўнай яго роднасцю з беларусамі. Таму столькі намаганняў прыклаў Свяціцкі, каб «пазнаёміць... са становішчам і імкненнямі... найбліжэйшых братоў», а таксама паказаць парадненне беларусаў і ўкраінцаў «як становішчам, так і ідэйным жыццём». Немалаважнае значэнне мела і тое, што адным з настаўнікаў маладога Свяціцкага быў Павел Смалікоўскі з Беларусі. Ён і даў свайму вучню першыя звесткі пра Белую Русь, пасяліў у ім любоў да беларускага народа.

Як жа разгортвалася дзейнасць Іларыёна Свяціцкага як збіральніка мастацкіх каштоўнасцей беларускай культуры?

У 1908 годзе Іларыён Свяціцкі пісаў, што музей мае на мэце сабраць, сістэматычна ўпарадкаваць і зберагчы для навукі памяткі культурнацаркоўнага жыцця паўднёва-заходняй Русі, у тым ліку стварыць Беларускі аддзел.

Ужо ў сакавіку-ліпені 1905 года адбылося першае падарожжа па Украіне, Расіі, Беларусі для папаўнення фондаў музея. Свяціцкі адпраўляецца ў далёкую дарогу, каб закупіць кнігі, вывучыць антыкварны рынак, сустрэцца з архіўнымі даследчыкамі. Пачаеў, Бярдзічаў, Жытомір, Кіеў, Чарнігаў, Масква, Пецярбург, Віцебск, Смаленск, Мінск, Вільня – вось назвы гарадоў, у якіх ён пабываў. Пад гэты час у асноўным фондзе музея ўжо былі беларускія гістарычныя акты, рэдкія палемічныя друкі XVI–XVII стст., партрэты (напрыклад, віленскага каноніка Янкоўскага, Іасафата Кунцэвіча, Рыгора Хадкевіча), рызы, царкоўны посуд з гістарычна вядомых цэркваў Беларусі. Цікавасць да цэркваў у тыя часы мае сваё вытлумачэнне, бо «ў паняволенага народа, – пісаў Свяціцкі, – толькі царква магла яшчэ зберагчы тое-сёе з прыдбанняў нацыянальнай культуры».

Свяціцкі даведаўся ад львоўскага вучонага Міхаіла Паўлыка аб прыватным беларускім архіве-музеі Генрыка Татура ў Мінску. Пабачыцца з гэтым музейнікам яму ўдалося толькі ў 1906 годзе, калі Свяціцкі зноў паехаў па Беларусі.

# Свяціцкі і Беларусь

*І.С. Свяціцкі (07.04.1876 – 18.09.1952) з'яўляецца піянерам беларусістыкі ва Украіне і адным са значных дзеячаў еўрапейскай беларусістыкі. У 1908 годзе ўбачыла свет яго першая праца на 58 старонках, прысвечаная беларускай літаратуры. Гэта «Адраджэнне беларускага пісьменства». Аўтар ужо два гады як быў знаёмы з Цёткай – беларускай эмігранткай у Львове, стаў яе шчырым сябрам, дарадцам. І, магчыма, яе настаўнікам, як больш асвечаны ў мастацтве чалавек, хоць Іларыён Сямёнавіч і быў аднагодкам Цёткі.*



*У сваёй кніжцы Свяціцкі аналізуе творчасць беларускіх пісьменнікаў, а таксама вершы з двух зборнікаў Цёткі, выдадзеных у Жолкве ў 1906 годзе. Ён прыводзіць цытаты з тых варыянтаў зборнікаў паэтэсы, якія былі выдадзены лацінкай, а не кірыліцай. Напэўна, каб аблегчыць галіцкім чытачам азнаямленне з паэзіяй Цёткі.*

*У 1914 годзе Свяціцкі друкуе «Асновы адраджэння беларускага пісьменства», а ў 1918 годзе – «Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі». На шматлікіх старонках ён расказвае пра Ф. Скарыну, С. Буднага. Пра беларускае кнігадрукаванне піша ён і ў кнізе «Пачаткі кнігадрукавання на землях Украіны». Тэма Беларусі гучыць і ў працы Свяціцкага «Смаленская грамата 1229 г.» ды ў іншых.*

*Хто ж ён такі, даўні сябар беларусаў?*



Д-р Іларіон Святицький

Відроджене білоруського письменства

Львів

1908

Прыкметныя змены, якія адбыліся на нашай зямлі ў выніку рэвалюцыі 1905 года, адразу кідаліся ў вочы прыезджаму чалавеку. Свяціцкі пільна прыглядаецца да першых крокаў культурна-нацыянальнага жыцця ў Беларусі. Толькі чалавек, які выдатна ведаў гісторыю беларускага народа, здолеў так абагуліць свае назіранні: «Не трэба нават доўга даказваць, што маем поўнае права гаварыць пра беларускае адроджанае пісьменства».

Свяціцкі, выкарыстоўваючы дзелавую паездку, сустракаецца з прадстаўнікамі беларускай культуры. І не толькі «эстэтычнымі» бакамі навакольнага свету цікавіўся вучоны, а, як з добрым пачуццём гумару зазначае ён, «адначасова капаўся па сапраўдных норах, дзе ўсякія нашчадкі гогалеўскага Плюшкіна прывыклі складваць усё рызманнё часам разам з каштоўнейшымі скарбамі даўніны». Памагаў яму старшы «посміцюх» (ад слова «сметнік»), музейнік з абласной імперскай археалагічнай камісіі – вышэйпамянёны Генрык Татур.

Цікава апісаў Іларыён Свяціцкі знаёмства з гэтым чалавекам. «Яго сядзіба за мінскаю электрычнаю станцыяй, на ўскраіне горада, была пасярэдневяковаму абнесена высокім парканам і частаколам. З вуліцы трэба было моцна стукаць кулакамі і бразгаць клямкаю, пакуль на страшны брэх сабак выйшаў прысадзісты, рудаваты, з нізкаю мясістаю шыяй, з выразнымі скуламі – адным словам татарын. Гэта і быў сам гаспадар Татур. Размаўляў толькі папольску, напэўна, з мясцовым «літоўска-беларускім» акцэнтам. Рускіх чыноўнікаў, бацюшак, манахаў не любіў і з'едліва высмейваў іх за тую дабрадушную даверлівасць, з якой яны перадавалі яму каштоўныя скарбы мінуўшчыны. Сам ён асабіста быў добрым псіхолагам і ўмеў чытаць праз знешні вобраз у душы. Не дзіва, што ўдалося яму сабраць сапраўды нямала».

Калі львоўскі госць вытрымаў у Татура трохдзённыя іспыты на цярплівасць, а таксама паказаў яму веды ў музейных справах і некалькі ўвайшоў у давер, тады гаспадар стаў паказваць сваё дабро. Бязмерна хваліць і высока ацэньваць паасобныя рэчы – было ўласцівасцю характару Татура. Не абышлося без гэтага і цяпер. Але да куплі рэчаў з калекцый мінскага музейніка нельга было прыступіцца, бо Татур запрасіў за ўсё выбранае ці не 10 тысяч рублёў, з чаго ўступаў толькі 300 рублёў у выглядзе «парукавічнага».



*Скарынаўская Біблія ў зборах І. Свяціцкага*

Так ні з чым Свяціцкі і паехаў ад Татура. Справы закупкі беларускіх рэчаў для музея закончыліся ў снежні 1907 года пасля знаёмства з вучнем і памочнікам Татура – Янкам Луцкевічам. Той даў згоду прадаць музею значную колькасць шаўковых слуцкіх паясоў, некалькі партрэтаў, нямала актаў, антымінсаў.

У лютым 1908 года Іларыён Свяціцкі трэці раз наведаў Беларусь. Ён ужо быў знаёмы з многімі віднымі дзеячамі беларускай культуры. Асабліва шчырыя адносіны ўстанавіліся ў яго з Янкам Купалам. Яны мелі між сабой перапіску. Іларыён Свяціцкі вельмі цікавіўся новымі здабыткамі беларускай літаратуры, складаў беларускую бібліятэку і часта пасылаў Купалу лісты з просьбай прыслаць яму новыя кнігі. Наогул, у Львоў даволі часта прыходзілі лісты Купалы, бо ён яшчэ меў перапіску і з Цёткай. Вельмі шкада, што львоўскі архіў Цёткі вывезены Кейрысам за мяжу і лёс яго амаль невядомы.

Адной з галоўных прычын трэцяга прыезду Іларыёна Свяціцкага ў Беларусь быў выкуп і перавозка рэчаў з музея Татура. Сам гаспадар да таго часу памёр, і ўсе справы прыйшлося весці з Янкам Луцкевічам. Свяціцкі апісвае гэтыя падзеі так: «Татурава дабро магло быць перадана "крадком ад шпіёнаў", якія тады сачылі за дзейнасцю Беларускай сацыялістычнай грамады, а Грамада ў тыя часы распараджалася ўсёй маёмасцю Татура.

Прывезеныя ад Татура рэчы, у дадатак да прыдбаных раней, сталі асновай Беларускага аддзела Нацыянальнага музея ў Львове. Пазней гэты аддзел узбагаціўся выдатнымі матэрыяламі актаў і старадрукаў Скарыны, даволі добрым падборам узораў беларускага народнага мастацтва.

Калі ў першыя гады існавання музей абмяжоўвае сваю дзейнасць зборам старадаўняга мастацтва, то пазней, дзякуючы намаганням энтузіястаў, ён ператвараецца ў культурную ўстанову мастацкага значэння. У 1913 годзе Нацыянальны музей размясціўся ў спецыяльна прыдбаным прыгожым палацы (дзе знаходзіцца і цяпер) і быў адкрыты для публічнага наведвання. Ён становіцца шырока вядомым не толькі ў Заходняй Украіне, але і за яе межамі, і ўстанаўлівае сувязі з многімі музеямі свету. Ва ўмовах сацыяльнага і нацыянальнага ўціску Польшчы, не зважаючы на матэрыяльныя цяжкасці, музей увесь час папаўняўся. Дзякуючы Свяціцкаму, мацнеюць сувязі музея з Беларуссю.

Мне не раз даводзілася аглядаць экспазіцыю Музея ўкраінскага мастацтва. Але на гэты раз перада мною стаяла зусім іншая задача – самому ўбачыць фонды беларускага аддзела.

І вось дачка заснавальніка музея Вера Іларыёнаўна Свяціцкая паказвае мне збор закупленых у Беларусі слуцкіх паясоў. Іх дваццаць тры. Тканыя ў дзве, у чатыры столкі, розных узораў і адценняў, з металічным утокам і без яго, яны даносяць з векавой даўніны цеплыню рук і сэрцаў беларускіх майстроў. А вось і «кветкі радзімы»: пераліваецца сінім бляскам вытканы на ўсю шырыню пояса букет васількоў. О, праз колькі рук, варожых і ласкавых, прайшлі вы, а не звялі, не зліналі, дарагія васількі з горкіх, але вечных палёў радзімы! З кірылічных пергаментаў музей мае тры кірылічныя рукапісы беларускай рэдакцыі XIII–XIV стагоддзяў. Але самае вялікае багацце бібліятэкі – гэта беларускія старадрукі. У бібліятэцы музея захоўваецца частка пражскіх выданняў Ф. Скарыны 1517–1519 гадоў, а таксама яго кнігі, надрукаваныя ў Вільні ў 1525 годзе. На паліцах размяшчаюцца кнігі, выдадзеныя ў дваццаці старадаўніх беларускіх друкарнях. Сярод іх: з віленскай друкарні Мамонічаў – Евангелле, Псалтыр Мсціслаўца 1575–1576 гадоў, Статут літоўскі 1588 года і іншыя; з віленскай манастырскай Свята-Троіцкай друкарні; віленскай брацкай Свята-Духаўскай друкарні; з віленскай і гродзенскай стараабрадных друкарань; адзінаццаць кніг з Еўя (Граматыка Мялеція Смятрыцкага, 1619); кнігі заблудаўскага, кутэйнскага друку, з друкарань М. Вашчанкі і Богаяўленскага брацтва ў Магілёве; дваццаць адзін том з Супрасля. Усяго каля 100 экземпляраў беларускіх кніг.

***Так адкрываецца перад намі яшчэ адна старонка жыццядайных творчых сувязей двух славянскіх народаў-братоў, умацаванню якіх так шмат аддаў ведаў і энергіі шчыры сябар беларускай культуры Іларыён Сямёнавіч Свяціцкі.***

***Сяргей ПАНІЗЬНІК***

## Красавік

**Першае беларускае таварыства драмы і камедыі** (Мінск, 1917 – 1920) – 90 гадоў з пачатку існавання (адкрылася 23.04.1917).

**«Вясёлка», дзіцячы літаратурна-мастацкі часопіс** (Мінск, 1957) – 50 гадоў з пачатку выдання.

**Беларускі фонд культуры (БФК), грамадскае аб'яднанне** (Мінск, 1987) – 20 гадоў з часу стварэння.

**1 – Жук Алесь** (Аляксандр Аляксандравіч; 1947, Слуц. р-н), пісьменнік, перакладчык, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1978), Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1982) і Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992) – 60 гадоў з дня нараджэння.

**2 – Вуячыч Святлана Сямёнаўна** (1937, Мінск), танцоўшчыца, народная артыстка Беларусі – 70 гадоў з дня нараджэння.

**4 – Сапега Леў Іванавіч** (1557, Бешанков. р-н – 1633), дзяржаўны, палітычны, грамадскі і ваенны дзеяч ВКЛ, дыпламат, мысліцель – 450 гадоў з дня нараджэння.

**10 – Матусевіч Іосіф Антонавіч** (1907, Мінск – 1985), акцёр, народны артыст Беларусі – 100 гадоў з дня нараджэння.



*«Я вясну гукаю...»*

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 10

**Уздоўж.** 7. Вяляцічы. 9. Курбацкі. 11. Рабцэвіч. 12. Дэмбрава. 13. Сівер. 14. Рывін. 15. Лытка. 18. Пінчукі. 19. Карчмар. 20. Марці. 21. Трапеза. 24. Варцобы. 27. Нізка. 30. Путра. 32. Бугай. 33. Ярмолава. 34. Буралкін. 35. Камінскі. 36. Рысінскі.

**Упоперак.** 1. Пякарскі. 2. Нямцэвіч. 3. Шышчыцы. 4. Шкоднік. 5. Баброvіч. 6. Якавенка. 8. Інвар. 10. Рымар. 15. Ліман. 16. Тарэз. 17. Аківа. 22. Рэпартаж. 23. Пятровіч. 25. Цагельня. 26. Буйніцкі. 28. Іспанія. 29. Канбера. 31. Аракс. 32. Барыс.

## З народнага

**Расказвае жыхар в. Рубеж Сенненскага раёна, запісана 10 ліпеня 1987 г.**
(З захаваннем уласцівасцей мясцовай гаворкі)

### Поп ласы быў на баб

*У аднэй красівый бабы мужык пашоў у армію. Жонка прашла к папу на споведь. Поп ёй і гаворыць: «У цябе рабёнычык будзіць, алі родзіцца калека». «А што ш дзелыць?» – «Прыхадзі лячыцца». Пычаў «лячыць» поп бабу. Радзіла жонка мальца. Харошы рабёнычык. Прышоў мужык, узяў на рукі і гаворыць: «А харошы ты мой сынок!». А жонка кажыць: «А ты быў ба разумны, кап ні бацюшка?! Ён яго лячыў, кап ні быў калека».*

**Расказвае Вундзілоўскі Раман Рыгоравіч, в. Вялікае Сяло Сенненскага раёна, 1900 г. нараджэння. Запісана 25 чэрвеня 1988 г.**
(З захаваннем уласцівасцей мясцовай гаворкі)

### Як пастух зайца забіў

*Пасьціў я карой, а бабы лён падымалі. Пытхаджу, а зайіц сьпіць. Я яго палычкуў цёпнуў, дык ён і ношкі выцігнуў. Я яго зы нагу вяровачкуў, на плечы і пашоў, і пашоў. Шкурку злупіў, здаў у Сянно, а мяса зготовіла хызяйка.*

### Як конь стада сцярох

*Пасьцілі коні. Вайкі выюць. Я кажу: баюся, зьядуць коні. А нашлежнік мой кажыць: ня бойся, лажыся спаць. А ў нас быў конь, і мы яго ня путылі. Як убачыць вуўка, ён яго заб'ець. Мы яго нікігда ня путылі. Коні сыбярэць у кучу і вуўка ні патпусьціць. Ён як свісьніць у ноздры, то воўк сьвісту спужайіцца. І пубяжыць. Ён і ныгамі сячэць. Ён і вуўка забіў.*

### Лічылка

*Раз, два, тры, чатыры,*
*Мяне грамыці (грамці) ня ўчылі:*
*Ні чытаць, ні пісаць,*
*Толькі ў палычку гуляць.*
*А я ў палычку гуляла,*
*Сабе ножычку злымала.*
*(Хто застаецца, той ловіць. Усе разбягаюцца).*

*Запісаў Іван ЯШКІН*

## Пажар у ліфце

Вандалізм у ліфтах – галаўны боль і немалыя выдаткі для работнікаў ліфтавых служб і жыллёва-эксплуатацыйных прадпрыемстваў і, у першую чаргу, сапсаваны настрой законапаслухмяных жыхароў. Ды дзе там! Падлеткі і дарослыя, апынуўшыся ў кабіне, псуюць электроніку, драпаюць сцены, выпальваюць кнопкі.

Вельмі трагічна магла скончыцца такая забаўка трох падлеткаў, якія падпальвалі запальнічкай абшыўку ліфтавой кабіны ў доме на Смаргонскім тракце, 10. Дзяцей выратавала толькі тое, што брыгада РУП «Белліфт» атрымала паведамленне аб прыпыненні ліфта ў той момант, калі праязджала міма. Калі работнікі аварыйнай службы прыбылі на месца выкліку, пабачылі, што кабіна ліфта спынілася паміж пятым і чацвёртым паверхамі, а з яе выходзіць дым і раздаюцца крыкі аб дапамозе. Як толькі работнікі РУП «Белліфт» вызвалілі «закладнікаў», кабіна ліфта загарэлася. Вінаватыя ў здарэнні, калі патушылі на сабе адзенне, збеглі.

Засцерагайце дзяцей ад такіх небяспечных забаў!

*Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ, інспектар ЦРАНС*



*Такую калонку пабачыў Ігар ГАТАЛЬСКІ ў в. Старынкі на Міншчыне*

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВЯСЕЛЛЕ**. Пра вяселле ва ўсіх культурах свету створаны яркія, захапляльныя, а ў многіх (а то і пераважных) выпадках і звыштрагічныя вусныя легенды, пісьмовыя паэмы, п'есы, раманы, калі часамі яшчэ давясельныя стасункі і варункі заканчваліся смерцю зусім маладых людзей («Рамэо і Джульета» Шэкспіра і інш.). Здаўна давясельны, вясельны і пасляясельныя цыклы адлюстраваныя ў народнай творчасці, у літаратуры, культуры і Беларусі. Каб хоць бегла паўтарыць думку вучоных, апісанае ў творах беларускіх пісьменнікаў, пачынаючы з вершаў і паэм В. Дуніна-Марцінкевіча, трэба не адзін газетны нумар. Таму, магчыма, варта запыніць увагу на панаццы старажытнага і сучаснага беларускага вяселля.

Як засведчана са старажытнасці, спачатку шлях да вяселля ў маладых беларусаў ішоў, зразумела, і праз іхнія пачуцці, і праз згоду (нязгоду, разлік) бацькоў. Замацоўваўся ён сватаннем, калі не столькі маладыя, колькі па даручэнні іхніх бацькоў сваты (сваякі альбо найбольш паважаныя, загадзя падрыхтаваныя людзі) вялі сумесныя папярэднія перамовы пра магчымасць вяселля і пасагу (часамі сродкамі шматсказальнасці, з прымаўкамі ды прыказкамі). Здаралася і так: з абодвух бакоў – шчаслівая згода. Але і ў гэтых выпадках, калі ўжо і так усё было ясна загадзя, усё роўна дзеля павагі да даўніх звычаяў трэба было захаваць парадак, каб не ўсё спаўнядь адразу ж, «у лоб». Звычайна ў вёсках сямейліся ў сваёй мясціне ці паблізу іншых, г.зн. добра ведалі бацькоў і прадзедаў маладых, ды наладжвалі «агледзіны» гаспадаркі жаніха, каб захаваць, сцвердзіць даўні звычай – упэўніцца і ўпэўніць іншых, што ён будзе надзейны гаспадар, муж і бацька. Пасля рытуальных агледзін наладжваліся «запоіны», калі ўжо пра ўсё было дамоўлена, а потым яшчэ і яшчэ раз перамоўлена ды асэнсавана, і можна было з палёгкай уздыхнуць (ці горасна згадзіцца), выпіць чарку («малая гарэлка», «барыш»), і калі ўжо жаніх і нявеста пераходзілі ў ранг (стан) «запоеных» , «замоўленых». Калі ж і пасля гэтага (мо перадумалі) у некаторых узнікалі пэўныя сумненні, то маглі яшчэ быць і «заручыны» («вялікія змовіны і запоіны»), пасля якіх ужо адмова аднаго з бакоў ад вясельнай справы лічылася ганебнасцю.

*(Працяг артыкула будзе)*



*Развітанне з бацькоўскім домам: дзяўчына ўкленчыла перад абразом (в. Гарыздрычы Кобрынскага павету, 1930-я гг.)*

**Сябры, наступны нумар газеты выйдзе 6 красавіка 2007 года. Да сустрэчы!**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19.03.2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 22.03.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 240
Тыраж 1450 асобнікаў.